**№ 4 (1817)**

Серада, 14 студзеня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — -1...+1, уначы — -1...+1, на працягу сутак — снег; у Брэсце ўдзень — -1...+1, дождж, уначы — -1...+1, снег; у Гродне ўдзень — -1...+1, дождж, уначы — -1...+1, снег; у Віцебску ўдзень — -1...+1, уначы — -2...0, на працягу сутак — снег; у Гомелі ўдзень — -1...+1, уначы — -1...+1, на працягу сутак — снег; у Магілёве ўдзень — -1...+1, уначы — -2...0, на працягу сутак — снег.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## Чакаецца візіт прадстаўнікоў еўрапейскай парламенцкай «тройкі»

У канцы студзеня чакаецца візіт у Беларусь прадстаўнікоў еўрапейскай парламенцкай "тройкі" — парламенцкіх асамблей Савета Еўропы, АБСЕ і Еўрапейскага парламента.

Як паведаміў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Анатоль Лябедзька, гэта будзе рабочая паездка, падчас якой прадстаўнікі "тройкі" азнаёмяцца з унутрыпалітычнай сітуацыяй у Беларусі. Палітык мяркуе, што ў склад парламенцкай "тройкі" ўойдуць кіраўнікі рабочых груп па Беларусі — Ута Цапф (ПА АБСЕ), Енас Чэкуоліс (ПАСЕ) і Ян Віерсма (Еўрапарламент). Апошні раз менавіта ў такім фармаце прадстаўнікі еўрапейскіх парламенцкіх структур наведвалі Беларусь у 2001 годзе.

А.Лябедзька заявіў, што перадвыбарная дэмакратычная кааліцыя "5+", у якую ўваходзіць і АГП, вітае рашэнне еўрапейскіх структур аднавіць работу ў рамках парламенцкай "тройкі". "Гэта дазволіць ім выпрацаваць адзіную пазіцыю ў дачыненні да Беларусі і скараціць для беларускіх уладаў поле для палітычнага манеўра", — лічыць А.Лябедзька.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Хрыстас Пургурыдэс рыхтуе «бомбу»

Дакладчык Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы Хрыстас Пургурыдэс абураны адсутнасцю адказу беларускіх уладаў на мемарандум у справах зніклых. Ён кажа, што гэты факт толькі пацвярджае, што ягоны мемарандум пра зніклых у Беларусі абгрунтаваны. Калі пры канцы студзеня ў Страсбургу збярэцца зімовая сесія ПАРЭ, яе юрыдычны камітэт абмяркуе канчатковую справаздачу Хрыстаса Пургурыдэса.

Хрыстас Пургурыдэс даў беларускім уладам час на пачатку студзеня, каб яны адказалі на ягоны мемарандум "Зніклыя асобы ў Беларусі". Але, як паведаміў Х.Пургурыдэс Радыё "Свабода", адказу ад беларускіх уладаў ён так і не атрымаў.

*"Я даў ім усе магчымасці абвергнуць мае папярэднія высновы. Паколькі дагэтуль я нічога ад іх не атрымаў, я не буду кантактаваць з імі зноў. Я атрымаў лісты ад жонак зніклых ды ад іншых беларусаў. Яны прапанавалі зрабіць дапаўненні. І я, безумоўна, дадам іх да свайго тэксту — пакуль гэта быў мемарандум, а не канчатковая справаздача"*, — паведаміў дакладчык ПАРЭ.

Паводле Хрыстаса Пургурыдэса, канчатковы тэкст ягонай справаздачы можа стаць сапраўднай бомбай для цывілізаванай Еўропы.

*"Хартыя-97".*

## Тратыл на дачы

У вёсцы Каменка Горацкага раёна Магілёўскай вобласці супрацоўнікі ўпраўлення Камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй па Магілёўскай вобласці і аддзела крымінальнага вышуку Дрыбінскага РАУС у дачным доме непрацуючага жыхара Магілёва канфіскавалі вінтоўку Мосіна калібра 7,62 мм, 92 патроны да яе і 6,6 кг тратылу. Пра гэта БелаПАН паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязей МУС Беларусі.

Паводле звестак МУС, з пачатку года ў сферы незаконных дзеянняў у дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў у Беларусі зарэгістравана 13 злачынстваў. За гэты ж час у мінулым годзе такіх злачынстваў было выяўлена ўсяго тры.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**ТОП-ПАЛІТЫКА**

# Чаму Сідорскі змяніў арыентацыю

*і накіраваўся на Захад замест Усходу?*



*Сяргей Сідорскі адкрывае адну з выстаў у Мінску.*

**Фота ByMedia.net**

Гэтымі днямі прэм'ер-міністр Беларусі Сяргей Сідорскі павінен быў сустрэцца з расійскім калегам Міхаілам Касьянавым. Некаторыя крыніцы (напрыклад, "Радыё "Свабода") сцвярджаюць, што сустрэча мусіла адбыцца ў Маскве, іншыя (пераважна расійскія) паведамляюць пра магчымы візіт Касьянава ў Мінск. Топ-перамовы, падчас якіх трэба было абмеркаваць пытанні "супрацоўніцтва дзвюх краін у газавай сферы", анансіраваліся найбуйнейшымі расійскімі СМІ. Пра свае намеры сустрэцца ў бліжэйшы час з Касьянавым паведамляў і сам сп. Сідорскі падчас нядаўняй паездкі ў Гомель.

Але сустрэча Касьянава і Сідорскага была раптам адкладзена, а самалёт з прэм'ер-міністрам Беларусі на борце замест "первопрестольной" узяў курс на Захад — у сталіцу Аўстрыі — Вену. Чаму гэта адбылося?

Як паведамляе прэс-сакратар прэм'ер-міністра Беларусі Яўген Мялешка, Сяргей Сідорскі ў Вене "прымае ўдзел у пасяджэнні назіральнай рады *"Пріорбанка", які цяпер належыць аўстрыйскай групе "Райфайзэн"*. Беларускі прэм'ер-міністр, нагадаем, дагэтуль узначальвае назіральную раду "Пріорбанка". *"Беларускі ўрад выказвае зацікаўленасць у інвестыцыйных праектах з боку аўстрыйскага "Райфайзэнбанка", гаспадар Сідорскі збіраецца перадаць кіраўніцтву аўстрыйскага банка адпаведныя прапановы"*, — вось афіцыйная версія змены курсу прэм'ерскага авіялайнера. З Саўміна таксама паведамляюць, што *"ніякіх афіцыйных сустрэч у сп.Сідорскага з прадстаўнікамі мясцовых аўстрыйскіх улад не плануецца"*.

На думку расійскіх аналітыкаў, магчымай нагодай для замены афіцыйнай (і даволі важнай, перш за ўсё, з эканамічнага пункту гледжання) сустрэчы кіраўніка беларускага ўрада на ваяж у аўстрыйскую сталіцу, які па сутнасці не нясе важкай палітычнай нагрузкі, стала адпаведная каманда з крамлёўскай адміністрацыі — сустрэчу Касьянава і Сідорскага адмяніць. Пуцін са сваёй адміністрацыяй, сцвярджаюць аналітыкі, паступова адцясняюць расійскі ўрад ад вырашэння стратэгічных задач у адносінах паміж Расіяй і Беларуссю.

Відавочнае абвастрэнне адносін паміж нашымі краінамі, мяркуючы па ўсім, якое мае месца ў апошні час і якое магло яшчэ больш абвастрыцца падчас прэм'ерскай сустрэчы, не патрэбна сёння Крамлю. І адміністрацыя Уладзіміра Пуціна спрабуе перад маючымі хутка адбыцца прэзідэнцкімі выбарамі ў Расіі максімальна працягваць эксплуатацыю старога, праверанага матыву "брацкіх сувязяў". *"Да прэзідэнцкіх выбараў нічога чакаць нельга,* — лічыць член камітэта па справах СНД у Дзяржддуме Расіі былога склікання **Вячаслаў ІГРУНОЎ**. — *І толькі пасля выбараў прэзідэнт Пуцін будзе будаваць новую стратэгію зносін у СНД, а яго новая каманда можа выкарыстоўваць дастаткова жорсткія метады ў адносінах з Беларуссю. Зараз жа беларуская тэма вельмі моцны козыр у выбарчай кампаніі і страчваць яго было б неразумна".*

*"Пасля таго як прэзідэнт Расіі будзе пераабраны,* — мяркуе ўжо іншы расійскі аналітык **Дзмітры ЦАРАГАРОДЦАЎ**. — *Ён зможа ўжо не аглядвацца на міфы пра брацкія народы і дзейнічаць больш упэўнена... Беларускае пытанне занадта цяжкае, і яно будзе пастаўлена перад новай камандай Пуціна".*

Відавочна, што нашу краіну Расія зноў уцягвае ў свае гульні, у якіх імперскія інтарэсы ставіць значна вышэй нашых нацыянальных. Толькі вось што нас чакае пасля сакавіка бягучага года, калі прэзідэнт Пуцін, хутчэй за ўсё, будзе пераабраны на пасаду прэзідэнта Расіі? На мой погляд, нават немаўля сёння разумее, што тэма "мух і катлет" старымі новымі расійскімі ўладамі будзе зноў пастаўлена на павестку дня. І тады з намі папулісцкіх перамоў наконт ільготных тарыфаў на газ і іншыя энерганосьбіты ўжо ніхто весці не будзе. Пуцін грошы ў сваёй кішэні лічыць умее.

**Алесь СІЛІЧ.**

**СВЕЖАЯ ТЕМА**

# Может, и не тратить зря порох?

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Порой создается впечатление, что масса соотечественников в принципе не умеет радоваться жизни, выстраивать свой быт и отношения с окружающими гармонично, культурно, цивилизованно.

Но я бы не советовал тут сразу вешать собак на пресловутый "режим", который-де обрекает на такое мрачное существование. Каждый из нас может не напрягаясь вспомнить людей, которые и в наших действительно не тепличных условиях умудряются жить красиво. Регулярно чистить ботинки, ходить в театры, вовлекать коллег, друзей и даже суровых продавщиц в орбиту своего светлого настроения и дарить женщинам цветы не только к 8 Марта.

Но таких — намного меньше, чем хотелось бы. Мрачные лица, априорная настроенность на агрессию; хамство как универсальный способ решения межличностных проблем, тупой вандализм в подъездах — увы, характерные штрихи к портрету нашего общества.

Вернувшись недавно из Бельгии, автор этих строк в сладкой вечерней полудреме прокручивал в голове впечатления поездки, когда в автобус, шедший из национального аэропорта в столицу, подсела компания сильно нетрезвых женщин. Через минуту разгорелась дискуссия с водителем об оплате проезда, причем с обеих сторон посыпались выражения, которые могли бы поспорить этажностью с возводимой Национальной библиотекой. И я понял, что вернулся на родину.

При этом, заметьте, масса сограждан свято уверена, что пусть они там богатые, зато мы затыкаем их за пояс по части духовности. Подобные ласкающие национальное самолюбие мысли регулярно подогревает как власть, заявляя о некой особой сакральной миссии белорусов, по крайней мере в рамках восточнославянской цивилизации, так и оппоненты власти из национально-демократического лагеря. Вот и Зенон Позняк в заочном докладе на последнем съезде КХП-БНФ отметил, что **"мы іншыя эўрапейцы, бо не згубілі душы"**.

А если без мифов? Если трезво и честно? На какой ступени культуры и цивилизованности стоят белорусы? И наконец — уже предчувствую гнев пассионарных борцов! — не эта ли самая ступень цивилизованности, зрелости общества определяет качество господствующей власти? По Сеньке ведь шапка.

Политолог **Юрий Дракохруст** в интервью для *"Белорусских новостей"* сразу подчеркнул сложность и многослойность вопроса. **"Возможно, уровень культуры белорусов и не вполне соответствует заявлениям Александра Лукашенко и Зенона Позняка (заметьте, политических антагонистов!) о том, что наша страна есть некий культурный центр — то ли оплот восточнославянской цивилизации, то ли островок "настоящей", "исконной" Европы".** Только надо ли нам претендовать на некое мессианство? — задается вопросом собеседник. Да, контраст между Западом и нашей страной — хотя бы в плане бытовой культуры — заметен. **"Но убиваться по этому поводу, горестно полагая, что мы — дикий, непроходимый Восток, который никогда не станет Европой, тоже, пожалуй, не стоит. Белорусское общество, если говорить о долговременных тенденциях, наверное, развивается все-таки в европейском направлении,** — считает Юрий Дракохруст. — **Беларусь ведь не первая и, пожалуй, не последняя страна с авторитарным режимом. И когда в других государствах устанавливалась подобная власть, раздавались голоса: вот это и есть лицо данного народа! Сербия десять лет смотрела на мир лицом Милошевича. А возьмите Германию, куда Гитлер тоже не на парашюте спустился. Он пророс на германской почве... Но режимы уходили — и вопрос о лице народа возникал вновь. Ведь на той же немецкой почве проросли и Аденауэр, и Эрхард, и Шмидт, и Коль. Так что не надо думать, будто Беларусь обречена на бескультурье, застой, тупиковость. Ну, зашли в тупик, постояли... Выйдем!".**

Философ и культуролог **Валентин Акудович** считает разговоры про особую духовность славянских народов, и в частности белорусов, типичным мифом и своего рода профанским штампом. **"Мне никто ни разу толком не объяснил, чем именно русский или белорус духовнее француза или бельгийца. Я вообще лет 10-15 избегаю слова "духовность"**, — сказал он в интервью для *"Белорусских новостей"*.

Вопрос о критериях цивилизованности белорусского общества очень непрост, полагает Валентин Акудович. Оценка ведь во многом зависит от того, какие параметры выбираются. И в этом смысле, например, наша элита (хотя и не вся) больше ориентирована на европейскую — в какой-то степени, если хотите, импортированную систему ценностей. Интеллектуалы видят несоответствие общества этим параметрам и стремятся к переменам. Масса же пользуется в основном другой шкалой оценок: трудно, но не хуже, чем бывало, войны нет, чарка и шкварка имеется, так что "неяк будзе". А ведь человек счастлив настолько, насколько жизнь соответствует его представлениям.

**"Лукашенко умело воспользовался этой своего рода системой двойных стандартов. Он построил свою идеологию именно на соответствии представлениям массы — о политике, справедливости и так далее"**, — отмечает Валентин Акудович. И напрасно, добавляет он, иные в запале неприятия первого белорусского президента не хотят признавать логики прихода Лукашенко к власти. Другое дело, что белорусское общество меняется. Причем цивилизационный фактор действует не через прогрессивные статьи в газетах, а прозаичнее, зато мощнее — через обыденную жизнь.

Сотни тысяч белорусов ездят пусть и на подержанных, но западных авто, у нас уже миллион обладателей мобильников, растет компьютерное поколение, все шире входят в повседневность Интернет, спутниковое ТВ... **"Все это меняет ментальность нации. И даже внешний контраст с Западом уже не таков, как прежде,** — говорит культуролог. — **Мои знакомые из-за океана, приезжая к нам, восклицают: как похорошел Минск!".**

Александр Лукашенко не поспевает за переменами в ментальности электората. На сегодня он уже не является тем зеркалом состояния общества, каким был в начале политической карьеры. И проблема, если хотите, — драма первого белорусского президента в том, что он в силу ряда причин не может пойти на коренную внутреннюю трансформацию, считает Валентин Акудович.

Не эта ли внутренняя драма породила знаменитое импульсивное восклицание Лукашенко (видимо, из числа тех, авторство которых его тяготит): я, мол, свой народ за цивилизованным миром не поведу!

Соль ведь в том, что народ — путешествуя, сидя в Интернете, потребляя бытовые блага "загнивающего Запада" — сам врастает в цивилизацию, приобщается к лучшим ее достижениям, в том числе рынку, демократии, принципам уважения личности. Или, если хотите, цивилизация входит в нас.

И никакими декретами, никакими протекционистскими мерами по защите государственной идеологии этот импорт цивилизованности не перекроешь. Может, и не тратить зря порох?

*("Белорусские новости")*

**SOS!**

# Если вам угрожают убийством...

*Вчера "Народная воля" сообщила о том, что неизвестный мужчина угрожает убийством журналисту "Белорусской деловой газеты"* ***Ирине Маковецкой.***

*"Я сразу позвонила в "02", сказала, что мне угрожают убийством, попросила, чтобы попробовали определить номер звонившего, потому что он обещал перезвонить еще,* — рассказала Ирина. — *Там сказали, что это сделать невозможно: у милиции нет таких возможностей... Посочувствовав, мне предложили просто написать заявление по месту жительства..."*

***Действительно ли в МВД Беларуси сегодня нет возможности вычислить, с какого номера телефона звонят с угрозами? Есть ли подобные возможности в КГБ и прокуратуре страны? Что вообще делать и к кому обращаться, если вам грозят расправой?***

*С такими вопросами "Народная воля" обратилась к компетентным лицам.*

***Геннадий КЛЕПЧА, временно исполняющий должность начальника Управления информации и общественных связей Министерства внутренних дел:***

— Я не большой специалист в области технической оснащенности и технических возможностей вообще, но, насколько я знаю, если трубка не положена и соединение с абонентом еще есть, тогда на АТС можно определить, откуда звонят. А если разговор закончен — увы...

Криминальная разведка подобными вопросами не занимается, у нее несколько иные задачи.

Если вам угрожают убийством, надо обращаться в милицию. Звонить в дежурную часть, писать заявление по месту жительства. Любое заявление обязаны принять и рассмотреть.

***Мечеслав ГРИБ, генерал-лейтенант милиции:***

— Я уже давно не работаю в милиции, но в мою бытность районные отделы органов внутренних дел действительно подобных возможностей не имели. Областные, городские управления, в том числе и Гомельское, уже в то время могли установить, с какого номера телефона вам звонят и угрожают. И сейчас, полагаю, могут. Хотя когда-то вся техническая работа, связанная с оперативно-розыскной деятельностью, была прерогативой только Комитета государственной безопасности.

Сегодня в Беларуси оперативно-розыскной деятельностью занимается около восьми служб. Правда, такие службы, как таможенная и пограничная, в основном ведут свои сугубо ведомственные вопросы.

По мнению некоторых, сегодня самая суперсовременная техника, используемая для оперативно-розыскной деятельности, будто бы существует и в прокуратуре...

***Юрий АЗАРЕНОК, пресс-секретарь прокуратуры Беларуси:***

— Если бы Ирина Маковецкая сама позвонила, я бы более подробно объяснил... Во-первых, удобнее всего в данной ситуации обратиться с заявлением в Комитет госбезопасности. Если они найдут состав, то у них есть возможность с санкции прокуратуры попробовать найти тех, кто угрожает по телефону. Насколько я знаю, такие случаи уже были. Так, одному милицейскому товарищу угрожали по телефону, эти люди были найдены и привлечены к ответственности. Но самая оснащенная в этом плане все-таки не прокуратура, а КГБ.

Во-вторых, нужно, естественно, обращаться к оперативникам. И прежде всего с официальным заявлением к начальнику районного отделения милиции: на любое официальное заявление силовые структуры обязаны реагировать. Если все-таки в милиции отказали, обращайтесь в КГБ.

— *То есть ресурсы того секретного спецподразделения, которое раньше возглавлял Васильченко, не привлекаются к подобным делам?*

— Я не знаю, что при прокуратуре есть какие-то спецподразделения.

***Александр БАЗАНОВ, руководитель Центра информации и общественных связей КГБ:***

— В практике КГБ были случаи подобного рода, и мы успешно определяли лиц, занимающихся телефонным терроризмом. В одном случае это был человек психически нездоровый, другие истории связаны с криминальным прошлым.

Человек, который попал в такую ситуацию, как Ирина Маковецкая, прежде всего должен обратиться с письменным заявлением в органы правопорядка, потому что только тогда специалисты могут начать проведение комплекса оперативно-розыскных мер.

Люди, желающие оградить себя от проявления телефонного терроризма, могут добровольно в своем заявлении согласиться с тем, что в отношении их телефона будут проводиться оперативно-розыскные мероприятия. То есть телефон будет поставлен на контроль с целью выявления последующих угроз. Эта практика имеет место и она в случаях проявления подобных угроз довольно эффективна.

В любом случае практика раскрытия подобного рода угроз безопасности гражданина существует. КГБ в основном занимается случаями угроз в отношении политических и общественных деятелей. Журналист тоже относится к общественным деятелям. Но тот случай, который описан в газете, скорее всего, имеет милицейскую направленность, там, видимо, есть криминальные проявления угроз...

**Марина КОКТЫШ.**

**ГЛАС НАРОДА**

# Не забота, а издевательство

Полностью согласен с тем, что высказал в своем письме в редакцию житель г.Пинска Бурван ("Народная воля", 17.12.2003 г.) Он как бы в концентрированном виде изложил на страницах газеты все то, о чем говорит на кухнях подавляющее большинство пенсионеров.

Да, вряд ли найдем в мире страну, где бы жители тратили на коммунальные услуги 80—90 процентов своей пенсии, как это практикуется у нас.

Сколько раз высокие должностные лица, начиная с прошлогоднего лета, клялись перед народом, что тарифы повышаться не будут. Но в жизни все выглядит как раз наоборот. Взять хотя бы плату за воду. Начиная с апреля, она ежемесячно увеличивалась на 1—3 процента.

Или, что, например, дала жителям г.Минска ликвидация лотков по торговле овощами и фруктами? Во всех цивилизованных странах фруктами торгуют с лотков на улице. Любой покупатель может сам отобрать то, что ему нравится. И местные власти не считают, что эти торговые точки портят вид города. У нас же все как не у людей. Под видом того, что город надо приводить в порядок, насильно загнали людей в государственные магазины, где торговля овощами и фруктами организована по советскому образцу, хамоватыми продавцами, да еще и по ценам в 1,5—2 раза выше, чем это было при лоточной торговле. Достаточно побывать, например, в продовольственном магазине по ул.Восточной или в рядом расположенном магазине "Золотая рыбка". Хурма здесь в конце ноября продавалась по 5—7 тысяч рублей за килограмм, а на лотках рядом — по 1,5 тысячи рублей, бананы по 1750 рублей и, соответственно, по 1—1,1 тысячи рублей и т.д.

Ходить на рынок старым людям очень тяжело, а киоски и лотки были близко от дома. Но власти понадобилось искусственно, за счет тощих кошельков пенсионеров, реанимировать умирающую государственную торговлю, силой загнать туда людей хотя бы таким методом.

Или вот еще одна инициатива наших правителей. Недавно по телевидению сообщили о том, что готовится решение о повышении таможенных пошлин на товары, поступающие на наш рынок по линии "Second Hand". И делается это якобы для того, чтобы защитить наш внутренний рынок. Какой цинизм, какое издевательство! Ведь все знают, что основными покупателями этих товаров являются обнищавшие слои населения. Потому что эти поношенные изделия стоят копейки, а нашего производства — тысячи и десятки тысяч рублей. Значит, надо лишить людей последней возможности купить себе одежду. Пусть себе ходят голодные и раздетые. И самое главное — знают, что их мера ни к чему не приведет, никто наши товары покупать не сможет, все равно они останутся на складах.

Я привел несколько примеров из десятков тех, что принимаются правительством в ущерб своему народу. Но даже этого хватит, чтобы говорить о снижении народного доверия к правящему режиму и его руководству.

**Ян ЧИЖЕВСКИЙ, житель Минска.**

**ПАМЯЦЬ**

# Вандалы не забываюць Курапаты

***Напярэдадні 10-х угодкаў візіту амерыканскага прэзідэнта ў Беларусь Біла Клінтана невядомыя зламыснікі зламалі так званую лаўку Клінтана.***



15 студзеня 1994 года ў Беларусі з афіцыйным візітам знаходзіўся тагачасны прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Біл Клінтан. Амерыканскі прэзідэнт палічыў за неабходнае наведаць Курапаты — месца масавых пахаванняў ахвяр палітычных рэпрэсій. Практычна Клінтан стаў заснавальнікам своеасаблівага мемарыяла. Вакол усталяванай да яго візіту мармуровай пліты з надпісам на англійскай і беларускай мовах "Ад народа Злучаных Штатаў Амерыкі беларускаму народу" людзі пачалі ставіць самаробныя крыжы.

Так званую лаўку Клінтана ўсталявалі 9 студзеня, 15-га адбылося яе ўрачыстае адкрыццё. Сёлета 9 студзеня сябры Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ вырашылі адзначыць дзесятыя ўгодкі візіту Біла Клінтана і накіраваліся ў Курапаты, каб ускласці да помніка кветкі і вянок.

— *Мы абурыліся, але не здзівіліся таму, што ўбачылі,* — распавёў сакратар управы КХП-БНФ **Алесь Чахольскі**. — *Лаўка была зварочаная, праўда, не разбітая. Хаця яшчэ напярэдадні тут быў Уладзімір Юхо і ўсё было добра. Мы адразу ўсталявалі лаўку на месца.*

*Сорамна за тое, што адбываецца ў краіне. У Амерыцы памятаюць, што ёсць Беларусь, а ў Беларусі ёсць Курапаты, дзе расійскія НКВДэшнікі закатавалі не адну тысячу лепшых сыноў і дачок Беларусі".*

Дарэчы, гэта не першы падобны выпадак у Курапатах. Упершыню помнік стаў аб'ектам дзеянняў зламыснікаў яшчэ ў 1997 годзе. А тры гады таму невядомыя вандалы ўчынілі сапраўднае дзікунства: лаўку Клінтана разбілі. Тых, хто гэта зрабіў, знайсці не ўдалося. А помнік адрэстаўравалі і зноў урачыста адкрылі. **Алесь Шатэрнік**, вядомы беларускі скульптар, які займаўся рэстаўрацыяй, казаў тады: *"Расколіну ў месцы разлому на помніку я замазваць не стаў (*а паклаў туды жалобны каменны вянок — *М.Э.). Дакумент ёсць дакумент. Хай людзі глядзяць і ведаюць, што адбылося. І вандалізм яшчэ існуе".*

Тым не менш апошнія тры гады Курапаты ўвесь час прыцягвалі да сябе ўвагу вандалаў. *"Пасля таго як адрэстаўраваны помнік адкрыў амбасадар ЗША Майкл Козак, кожны год яго ламалі. То кавалачак адаб'юць, то павернуць. Вось такая наша памяць..."* — з горыччу заўважае **Алесь Чахольскі**.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**На здымку:** *тагачасны пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак у час адкрыцця адрэстаўраванай лаўкі, устаноўленай Білам Клінтанам 15 студзеня 1994 года на месцы пахавання ахвяр сталінскіх рэпрэсій у Курапатах.*

**Фота ByMedia.net**

# Віза ў абход

***У Мінску праваахоўнымі органамі Беларусі выяўлена і прыцягнута да адказнасці група грамадзян, якія каля пасольства ФРГ сістэматычна прапаноўвалі сваю дапамогу ў афармленні дакументаў на выезд у Германію за пэўнае грашовае ўзнагароджанне ў доларах ЗША.***

Пры гэтым, як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні інфармацыі і грамадскіх сувязей МУС краіны, афармленыя такім чынам дакументы не адпавядалі ўстаноўленым узорам і ў пасольстве Германіі не прымаліся.

У гэтай сувязі Упраўленне па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі МУС Беларусі нагадвае, што за парушэнне пункта 2.1 Дэкрэта прэзідэнта № 1 ад 5 лютага 1997 года "Аб мерах па забеспячэнні парадку пры ажыццяўленні валютных аперацый" прыцягненні да адміністрацыйнай адказнасці падлягаюць як асобы, што ажыццяўляюць афармленне дакументаў на выезд, так і тыя, хто аплачвае гэтыя паслугі.

Паводле звестак МУС, з пачатку года на тэрыторыі, сумежнай з пасольствам Германіі ў Мінску, за парушэнне названага дэкрэта да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты ўжо 26 чалавек. Супрацоўнікі УБЭЗ і надалей будуць працаваць у раёне пасольстваў у мэтах вызначэння асоб, якія ўчыняюць махлярскія дзеянні ў дачыненні да грамадзян, жадаючых аформіць дакументы для выезду за межы краіны.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

